# Звон.

**Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.**

Рукапісы павінны быць перапісаны чытэльна. Аплата прынятых рукапісаў залежыць ад Рэдакцыі.
Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
**м. Мінск, Юбілейны дом.**

Цана нумару 1 марка.

Год выданьня I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня, апрача сьвят ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

**Цана абвестак:**
радок за тэкстам . . . 2 м
шукаючым працы, за абвестку 2 м.

№ 6. Менск. Пятніца 5 верасьня 1919 г. № 6.

Дзеля вялікага недахвату паперы газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: *у панядзелак, сераду і пятніцу.*

Наша рэдакцыя адчыняе на страніцах „ЗВОНА" аддзел
**„ВОЛЬНАЯ ТРЫБУНА"**
для развагі спрэчных пытаньняў.

## Трэба выясьніць палажэньне.

Штодня прыходзяць ў рэдакцыю людзі і выкладаюць скаргі, што мясцовые польскіе ураднікі ня хочуць лічыцца з імі, як з беларусамі, — не шануюць нашай мовы і не спаўняюць навет таго, што вымагае ад іх прыказ іх начальства. Так, напрыклад, сягодня вы друкаваны у нас два лісты ў рэдакцыю, з каторых відаць, што, ня гледзячы на протэсты і прыказ, падпісаны Намесьнікам Г. Камісара, мясцовые ураднікі адказваюцца прымаць заявы і просьбы ў беларускай мове, публічна насьміхаюцца з папытак дабіцца выпаўненьня закону і заяўляюць, што колісь маскоўцы гэтак рабілі з імі, так хочуць рабіць і яны.

Мы ня будзем гаварыць пра тое, што беларусы ніякага дачыненьня да маскоўцаў ня маюць; мы ня будзем гаварыць пра такую дзікую мораль, што калі душылі мяне, то трэба душыць і мне ды яшчэ саўсім ня таго, хто вінаваты. Мы хочам зазначыць толькі тое, што вышэйпамяненые скаргі часьцей і часьцей даносяцца і з далёкай правінцыі; што ў Бабруйскі магістрат выбіраюцца палякі, жыды і расійцы, а беларусаў і паміну няма; што ў нас, у Менску, быўшые царскіе чыноўнікі, сплюнуўшы ад першых пярэпалахаў, паднялі голаў і адкрыта паднімаюць на зьдзек імя беларуса.

Мы будзем аб гэтым званіць на ўвесь сьвет, бо хочам запытаць, штож-гэта ўсё значыць? Як-жа пагадзіць гэта з тым, што гаварылося ў адозьве Начальніка Польскага Панства да насяленьня нашага краю аб вызваленьні народу нашага спад векавога уціску і паняверкі? Як-жа можна пры такіх варунках наладзіць прыязные адносіны паміж Польшчай і Беларусьсю, аб якіях гаварылі паслы польскага Сойму з прадстаўнікамі Беларускага Камітэту? З гэтага можа выйці ўсё, што хочаце, але ня дружба.

Нам трэба выясьніць нашае палажэньне. Нам трэба цьверда ведаць, чаго мы можам спадзявацца ад польскай улады на мейсцы. Нам патрэбны не абяцанкі, мы прагнем рэяльна упэўніцца, што палякі не забыліся пра нашае гістарычнае сужыцьце, что яны нашы прыяцелі і што яны ня толькі будуць шанаваць нас і нацыянальные патрэбы нашы, а дапамогуць нам ў нашым змаганьні з нашым супольным ворагам, як дапамагае дужэйшы слабейшаму па прыказаньню чалавечнасьці і братэрскага спачуцьця.

Мы зноў зьвяртаемся да польскага народу і кажам: разам мы занялалі і разам павінны адраджацца. Няхай ня будзе паміж намі непаразуменьня, няхай запануе паміж намі братэрства, згода і ўзаемная дапамога.

## Бальшавіцкая гаспадарка.

Як ведама, Расія была самаю негаспадарнаю дзяржаваю ў сьвеце. Яна была нямецкаю колёніяй, разам з Нямеччынаю складала адзін гаспадарчы арганізм, і, ваюючы з Нямеччынай, разрываючы свой зьвязак з ею, яна больш усіх дзяржаў пацярпела.

Апроч немцаў гаспадарылі у ёй французы і бэльгійцы у Данецкім басэйне, ангельцы на Каўказе і другіе народы. Самі расійскіе прамысловцы і купцы весьці агульнае гаспадаркі не маглі. Вось чаму, калі немцы былі выгнаны з Расіі, іх мейсцо заступілі ў ёй ангельцы, амэрыканцы, французы і японцы.

Што тычыцца вясковай гаспадаркі, то сярод расійскіх сялян яна была вельмі дрэнна пастаўлена. Досыць сказаць, што на цэлые вёскі Тверской і Валагодскай губэрні статыстыка налічвала сьвіней адзінкамі. Сяляне ніколі не загорваюць на зіму сваіх палёў. Таму ў лето, з трошкі сухою вясною, там заўсёды неураджай. Мы ведаем, што не праходзіло 5-цёх гадоў, каб казна ні падкормлівала якіх нібудзь цэнтральных, альбо усходніх губэрняў, асігнуючы на гэта соткі мільёнаў. Велькіе абшарнікі звычайна аддавалі сваю землю ў арэнду сялянам. На гэтым факту пабудована ўся аграрная праграма расійскіх эс-эраў. I ніколі мы ня чулі, каб казна карміла заходніе губэрні, навет такую, як Віцебская, дзе, па словам расійскіх географаў, гаспадар ледзьве зьбіраў свой насеў. Во навет на самай кепскай зямлі у нас гаспадарка вялася шмат лепш, як у Маскоўшчыне, дзякуючы уплывам заходняй культуры. Калі значыць сама расійская „буржуазія" не магла весьці гаспадаркі, калі гаспадарка у Расіі стала вельмі дрэнна, а у час вайны яшчэ горай, то было велькаю адвагаю тэорэтыкаў бальшавікоў, ня маючых ніякай гаспадарскай практыкі, *браць уладу, гэта значыць кіраваньне гаспадаркаю,* у свае рукі, парываючы усякую зьвязь з заграніцаю, ануліраваньнем заграічных пазыкаў. Тым часам, робячы сваю „акцябрскую" рэвалюцыю на грунце гаспадарчага развалу, бальшавікі абяцалі народу „малочные рэкі з кісельнымі берагамі". I вось вынікі гэтае гаспадаркі: у гарадох народ вымірае з голаду, у вёсках сяляне зьменьшаюць свае гаспадаркі, каб ня было чаго адбіраць бальшавіком. Ня будучы ў стане даць працу беработным, альбо карміць іх, улада пасылае іх на фронт. Там напэўна яны накормяцца „ня куском, дык пяском".

Аднак бальшавікі ня хочуць прызнацца у сваей нядатнасьці, бо тагды трэба было б адказацца ад улады, ад кіраваньня гаспадаркаю, каторая толькі ім адным дае смачны і лёгкі кавалак хлеба. Дзеля гэтага яны гавораць, што гаспадаркі ня можна добра паставіць, бо яны перажываюць ваенную разруху і іх душыць блёкада.

Праўда, што тэкстыльные фаб-

голад, холад, нейкая вечная недастача грошай на пражыцьце „такcяк", прытулішчо ў сырых мураваных куточках—ўсё гэта магло скалечыць і змагчы самы жалезны арганізм. І бачучы перад сабою сьвежую магілку яшчэ адной вялікай ахвяры для шчасьця і лепшай долі Бацькаўшчыны, ня будзем траціць веры ў канечную перамогу нашае ідэі, будзем насіці ў сабе імпат творчага натхненьня і адвагу сама ахвярнасьці, як насіў іх адзін з нашых старэйшых правадыроў.—сягодня ўжо нябошчык,—Іван Луцкевіч. Вечная памяць вернаму сыну свайго народу! Хай ніколі не запомняць яго тые, хто гатоў сабою замяніць яго. Іван Луцкевіч памёр, але сьлед яго на беларускай ніве вечны і несьмяртэльны!

**Крауцоу Макар.**

Менск
27 жніўня 1919 року.

---

## Політычные навіны.

### Украінскіе справы.

ВЕНА, 27-8. Тутэйшые украінцы адкідаюць офіцыяльнае паведамленьне „Temps'a", нібыта Петлюра адмовіўся ад Усходняй Галіцыі. Наадварот, украінскіе справы ў Парыжы стаяць добра, дзякуючы уплыву Сазонова, які згадзіўся на украінска-расійскую фэдэрацыю. Украінскі Урад знаходзіцца ў Каменцу-Падольскім.

**Арэшт Маслова.** У Златаусьце бальшавікі арэштавалі вядомага социялістычнага пісьменьніка па аграрным пытаньню Маслова, быўш. міністра земляробства ў габінэце Керэнскага.

### Палажэньне у Маскве.

ЧЫКАГО, 16 жніўня. Амэрыканскім ўрадам (па дэпартамэнту загранічных справаў) адтрыманы паведамленьні офіцыяльнага характару з Масквы аб упадку уплываў Леніна. Палажэньне ў Маскве вельмі сэрьёзнае. Шмат жыхароў пакідаюць горад.

Амэрыканскі ўрад вельмі энэргічна пачаў дастаўляць Колчаку зброю і амуныцыю.

### Бэрлінскі Цэнтральны Камітэт Работніцкае Рады закрыты.

БЭРЛІН, 27 жніўня. У суботу (23-8) ўрадовые войскі занялі памяшканьне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Бэрлінскае Работніцкае Рады і закрылі яго. Паперы і дакумэнты конфіскованы. За апошні час ў Бэрлінскай Радзе былі толькі камуністы і блізкие да іх «незалежные». Социяль-дэмократы выйшлі з яе.

### Румынскае наступленьне проці бальшавікоў.

ЛІОН, 27 жніўня. З Жэнэвы паведамляюць, што румыны робяць вялікіе прыгатаваньні да наступленьня за Днестр. Войско сабрано ў Бэндэрах. Мэта наступленьня—злучыцца з левым крылом Дэнікіна.

---

## МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

— **Служачым магістрату** гэтымі днямі будзе заплачана першая пэнсія—½ частка бальшавіцкага акладу, царскімі грашыма.

У магістраце мае быць частковае зьмяньшэньне штатаў.

— **Сярод праваслаўнага духавенства** гавораць аб хуткім прыезьдзе ў Менск архіепіскапа Георгія, каторы выехаў з Менску перад прыходам бальшавікоў.

Праваслаўнае духавенство просіць польскую уладу дазволіць адчыніць духоўные школы, сэмінарыі і др.

— **Сярод чыгунгчыкаў.** Нас паведамляюць, што, дзеячы упраўленьня Палескай Чыгункі (у Вільне) п. Мястоўскі і інш. пераведзены у Галічыну, а адтуль, замест іх прысланы у Менск Галіцыйскіе інжэнэры.

Пры прыёмцы новых служачых пяршынство пакуль што аддаецца асобам, ведаючым польскую мову.

— **Да адкрыцьця акружнага Суду у Менску** приступіла польская ўлада. Справы маюць вясьціся на польскай мове.

Плян стварэньня валасных судоў адменены.

— **Бычшаму Сіротцкаму Суду** (пры бальшав.-Юрыдычны аддзел) Польскай уладай прапановано зьліквідавацца да 10 го г. м.

— **Хлеб** у прыватнай прадажы танее штодня на 50 кап. фунт.

— **Валюта.** Курс „керэнак" прыметна падымаецца: за 100 цар.—500—550 керанак.

**Паведамленьне.** Рэд.-выдаўцам „Звона" зьяўляецца пані Ядвіга (Ядвіга) Луцэвіч.

---

## Ліст у рэдакцыю.

I.

Шаноўны пане Рэдактару!

Прашу даць мне адказ на адно запытаньне: ці можна зносіцца з польскай уладаі у беларускай мове, ці не? У абвестках, налепленых на ўсіх вуліцах, пішацца, што, побач з польскаю, ужываецца і мова беларуская, а на дзеле выходзіць саўсім другое. Мусіць улада думала, чым-бы дзіця не забаўлялося, абы ня плакало,—абяцаць можна, а як будзе праводзіцца ў жыцьце, — відаць будзе. Гэта думка паўстала ў мяне посьле гэтакага здарэньня.

Згодна з прыказам польскай улады ад 22-га жніўня г. г. за № 14, прадстаўнікі нашага „Беларускага Настаўніцкага Саюзу" пашлі 26-га жніўня зарэгістравацца. Заява наша была напісана па беларуску. Польскі урадник, прачытаўшы слоў сатры і пасьміхаючыся сказаў, што такіх заяў ня прымае і што да іх, палякоў, заявы павінны пісацца папольску. Увесь Статут Бел. Наст. Саюзу так сама павінен быць перэкладзены на польскую мову. Ня зважаючы на нашые протэсты, урадник адвярнуўся і пачаў прымаць другіх з польскімі заявамі.

Няўжо і цяпер мы будзем бачыць зьдзекі з нашай мовы і з сябе? Дык чаго ж мы чакалі і чаго спадзяваліся? Няўжо горкае расчараваньне зноў чакае нас? Няўжо і тут нас не падтрымаюць, а будуць гнаць і сьмяяцца?

Спадзяюся, што гэтае здарэньне было прыпадкова і больш не паўтарыцца (дай Божа, каб было так!). Але, каб гэтага ня было, польская улада павінна аддаць прыказ сваім ураднікам спаўняць выданые ёю загады. Спадзяемся, што нам, беларусам, посьле абяцанак дужэйшых з нас, ня прыдзецца змагацца за правы свае мовы.

**К. Пуроускі.**

II.

Прашу п. Рэдактара выдрукаваць ў газэце пра здарэньне, каторае напаткало мяне 26-го жніўня 1919 г.

Прышоў я з двама сябрамі на Падгорную вул. № 14 зарэгістравацць „Б. Наст. Саюз". Там спаткаў я яшчэ сябра Хрысьц. Злучнасьці. І вось чаго мы былі сьведкамі.

Некі жыдок кажа рэгістратару, што не разумее па-польску. Тагды польскі урадник гаворыць з ім парасійску. А калі мы падалі просьбу па беларуску, то урадник адмовіўся прыняць і патрэбаваў паразуменьня ў польскай мове.

Мы зьвяртаем увагу урадніка, што насяленьне нашага краю мае права ужываць свае беларускае мовы нараўне з польскаю. Тагды урадник нецярпліва адказвае: „Калі ў Варшаве была чужая улада, то ўсе паперы пісаліся ў чужой мове. Так павінна быць і тут".

Я думаю, што пану урадніку трэба памятаць, як цярпелі палякі пад Масквою, калі на іх мову казалі „сабачы язык".

**К—ч.**

---

*Рэдактар-выдавец*
*ЯДВ. ЛУЦЭВІЧ.*



Друкарня Я. Грынблята, Менск.

З [illegible] нумару